© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 11 - 17 красавіка 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№15 (103)

3, 5, 6 СТАРОНКІ МАЛАДЗЁЖНЫ ЎКЛАДЫШ

УСЯ 8 СТАРОНКА ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

## Падзея тыдня

### Панядзелак дзень цяжкі і непрыемны. Але з гэтым не згодная

# вілейчанка Наталля ЛАБОХА–

### 7 красавіка яна завалодала прызам для падпісчыкаў – тэлевізарам "ВЕРАС".

***Апошнім падпісным абанементам, які прыйшоў ў рэдакцыю, быў квіток са слаўнага места Крэва-ад настаўніцы французскай і нямецкай моў Марыі Корвель. Марыя Казіміраўна даслала разам з квітком і цёплае пісьмо, у якім, між іншым, былі цікавыя прыпеўкі. Але як вызначылі пераможцу?***

Дакладна ў 16.00 у фае рэдакцыі сабраліся работнікі газеты, падпісчыкі-той, хто праявіў цікавасць да розыгрышу прыза. Прыза, які быў выстаўлены перад вачыма прысутных.

Працэдура вызначэння пераможцы была простай, але з доляй інтрыгі. Спачатку прадстаўнік ад прысутных падпісчыкаў вучань маладзечанскай сярэдняй школы N11 Косця ПЕТРАЧКОЎ выцягнуў з мяшэчка драўляны бачоначак для лато з нумарам сотні-2. Гэта значыць, у прэтэндэнтах засталася сотня, пачынаючы ад нумара 101.



Затым у мяшэчак засыпалі бочачкі з нумарамі для вызначэння нумара дзесятка, лёс якога вызначыла пяцікласніца другой маладзечанскай школы Оля ЯРШОВА. Шосты дзесятак другой сотні-нумары са 151-га па 160-ы. Засталося дзесяць прэтэндэнтаў. Гэта Тамара Папковіч з Маладзечна, Іна Ладыга са Смаргоні, вілейчанка Наталля Лабоха і Аляксандр Зайцаў з Любані, што на Вілейшчыне, В.Валынец з Маладзечна, С.Міраліева з Вілейкі, маладзечанцы Ганна Касмач, Яўгенія Дзянісік, А.Гірдзюк, а таксама Людміла Шушко з Альхоўкі Астравецкага раёна.

Напружанне прысутных дасягнула піку. У чароўны мяшэчак засыпаецца чарговы дзесятак бочачак з нумарамі ад адзінкі да дзесяткі. Другакласніца шостай маладзечанскай школы Віка КРУПЯНЬКОВА апусціла руку за доўгачаканым нумарам… Гэта была лічба 3. Пад нумарам 153 у спісе нашых падпісчыкаў значылася Наталля Сцяпанаўна Лабоха, якая жыве ў Вілейцы па вул.Гагарына, 12, корпус 1.

*Заканчэнне на 2-й ст.*

## Вячэрняя казка па-беразінску

***БЕРАЗІНСКАЕ. Мясцовае кабельнае тэлебачанне за апошнія паўгода зрабіла вялікі крок наперад.***

Галоўнае, беразінцы змаглі набыць сучасную тэлевізійную апаратуру, каб абсталяваць студыю. Цяпер ад цітраў да мантажу праграмы тут усё робяць самастойна. Выпускаюць нават фільмы. Пакрысе вырастае асобная дзіцячая тэлестудыя - таксама з фільмам для маленькіх, рэгулярнай вячэрняй казкай.

Выказала сваю зацікаўленасць у рабоце мясцовых тэлевізійшчыкаў і БТ. Што сведчыць па меншай меры пра дзве рэчы: узровень майстэрства беразінцаў і няхватку прафесійнасці ў дзейнасці мінчан.

Характэрна, што правінцыя пакуль не надта імкнецца выходзіць на рэспубліканскую аўдыторыю (пад патранажам БТ, зразумела). Затое ў абвешчаным конкурсе тэлеппраграм ва ўсіх трох намінацыях мае што выставіць.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

## Без шпрыцаў у бальніцу ні-ні

***АСТРАВЕЦ. Павевы новага часу адчулі на сабе наведвальнікі стаматалагічнага аддзялення мясцовай бальніцы. З нядаўняга часу ўведзена правіла: прыйшоў вырваць зуб— паварочвайся на 180 градусаў і ідзі па шпрыц у аптэку, бо ў бальніцы іх на працягу двух апошніх месяцаў хранічна нестае. І толькі заплаціўшы паўтары тысячы за шпрыц, хворы займее магчымасць пазбавіцца болю.***

— Гэта яшчэ нічога,— тлумачыць сітуацыю намеснік галоўнага ўрача па лячэбнай частцы Аляксандр Драйчук.— Становішча такое, што ў нас няма іншага выйсця. А ў параўнанні з іншымі бальніцамі вобласці— гэта не самае страшэннае. У Гродне людзі, якім неабходна аперацыя, вымушаны купляць, акрамя шпрыцаў, яшчэ і лекі.

— Ці не лепш у такім выпадку адразу перайсці на платнае лячэнне і зняць пытанні?

— Можа, і так. Толькі з гэтым пытаннем трэба звярнуцца як мінімум да міністра аховы здароўя.

Словам, ці так ці гэтак, а грошы з кішэні даставаць трэба.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Незразумелая кантрабанда

***АСТРАВЕЦ. Яе затрымалі мытнікі на КПП "Лоша". Жыхар Панявежыса ў багажніку ўласнага аўтамабіля спрабаваў перавезці праз мяжу парашок невядомага паходжання, узровень радыяцыі ад якога перавышаў дапушчальны ў некалькі разоў.***

Цяпер машына знаходзіцца на пасту "Лоша", а ўладальнік у следчым ізалятары КДБ. Спецыялісты цікавяцца ў яго ўсімі падрабязнасцямі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Адным абзацам

**З** годна з распараджэннем прэм'ер-міністра, 19 красавіка адбудзецца рэспубліканскі суботнік. Зробленыя на ім грошы пойдуць на будаўніцтва спецыялізаванага дыспансера ў Гомелі.

**Р** аспрацавана дзяржаўная праграма, якая прадугледжвае да 2000 года здзейсніць шэраг праектаў па імпартазамяшчэнні— замене імпартных тавараў на прадукцыю беларускай вытворчасці.

**К** аб рэалізаваць праект аб утварэнні БТ-2, патрэбна яшчэ не менш за год. У Мінску плануецца стварыць абласное тэлерадыёаб'яднанне, якое пакуль возьме на сябе функцыі БТ-2. Плануецца, што праграмы новага канала часткова перакрыюць ОРТ.

**У** Мінску праходзіць традыцыйны музычны фестываль "Мінская вясна", які сёлета прысвечаны Ф. Шуберту і І. Брамсу. У дні фестывалю з сольнымі канцэртамі выступіць народная артыстка СССР Марыя Біешу. Яе канцэрты павінны адбыцца і ў Маладзечне.

**З** наступнага навучальнага года ўводзіцца абавязковае размеркаванне выпускнікоў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Той, хто вучыцца на платнай аснове, размеркаванню, натуральна, непадуладны.

КРАМА ПРАПАНУЕ
НОВЫЯ КАЛЯРОВЫЯ ТЭЛЕВІЗАРЫ




ЧОРНА-БЕЛЫЯ
ВЕРАС
АНТЭНЫ
Маладзечна, Б.Хмяльніцкага, д.3
7-17-85

Чарговыя заняткі з юнымі карэспандэнтамі пройдуць 14 красавіка (у панядзелак) а 16 гадзіне ў рэдакцыі "РГ". Запрашаюцца ўсе жадаючыя. **Даведкі па тэл. 69667.**

ДМП •ТИНАЛ•
Рамяні клінавыя
Сальнікі
Стужка транспарцёрная
УСЁ вытворчасці ПОЛЬШЧЫ
ТЭЛ. ФАКС (01773) 32468 32437

## "Гальшанскі Замак" за росквіт рэгіёна

***АШМЯНЫ. Амаль год таму ў Гальшанах адбыўся сход заснавальнікаў грамадскай арганізацыі "Гальшанскі замак". Вясной яна правяла двухдзённы семінар "Вопыт патрыятычнага выхавання ў сельскай школе".***

Кіраўнікі школьных музеяў, апантаныя краязнаўчай работай настаўнікі з Ашмянскага, Валожынскага, Іўеўскага раёнаў сабраліся ў Гальшанскай СШ. Вялікае ўражанне пакінуў гістарычна-краязнаўчы ліцэй мясцовай школы, якім на працягу многіх гадоў кіруе Э. Корзун. Экскурсія па Гальшанах, наведванне старажытнага касцёла, руінаў знакамітага замка, які натхніў Ул. Караткевіча на раман "Чорны замак Альшанскі", завяршыліся ў мясцовым філіяле Нацыянальнага мастацкага музея.

На другі дзень удзельнікі семінара ездзілі на Валожыншчыну. Пабывалі ў музеі мастака Фердынанда Рушчыца ў Багданаўскай СШ, у "Беларускай хатцы", абсталяванай у Адамоўскай базавай школе. У Вішнеўскай сярэдняй школе імя К. Буйло пабачылі выступленне дзіцячага фальклорнага польскамоўнага калектыву "Вішнеўскія жаваранкі", фрагменты заняткаў гуртка "Нітачка й іголачка", конна-спартыўнага.

Раней мы імкнуліся пабываць у Маскве і Ленінградзе, Кіеве і Львове, Вільнюсе і Рызе, мала ведаючы мясціны вакол. За два дні настаўнікі дамовіліся аб экскурсіях і летніх падарожжах па рэгіёне. А паглядзець ёсць што не толькі ў названых мясцінах. Недалёка Лоск, Крэва, Баруны.

"Гальшанскі Замак" прапрацоўвае адкрыццё рэспубліканскага турыстычнага маршруту, які пройдзе па Валожынскім, Смаргонскім, Ашмянскім раёнах.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Навіны

### Кожнаму па кнізе

***АШМЯНЫ. Самай папулярнай кнігай стаў новы тэлефонны даведнік. Апошні быў выдадзены ажно 5 год таму.***

Выдаўцы, магчыма, палічылі, што кожная "тэлефанізаваная сям'я" павінна мець па даведніку і таму дзеля 6 тысяч абанентаў выдадзена 7 тысяч экзэмпляраў.

*Аддзел інфармацыі.*

### Вітаміны круглы год

***ІВЯНЕЦ. Выхаванцы дзіцячага дома-інтэрната ў сваім меню амаль штодзень маюць зялёную цыбулю, салату.***

Вырошчваецца першая гародніна на вялікіх плошчах стацыянарнай цяпліцы. Толькі за 3 месяцы тут сабрана амаль паўцэнтнера зялёнай цыбулі, 80 кг салаты, ёсць радыс, чырвоны перац.

Неўзабаве з'явяцца свае агуркі. Расаду памідораў рэалізуюць нават насельніцтву, калі на свае патрэбы яе замнога.

А гасцей у гэтай установе заўсёды сустракаюць кветкамі— прыгожымі белымі каламі, якім таксама знаходзіцца месца ў цяпліцы.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Ведай нашых

***МЯДЗЕЛ. На міжнародных спаборніцтвах клубаў вясёлых і знаходлівых каманда нарачанскай СШ №1 заняла 3 месца.***

Некалі перамагла ў раёне, вобласці. Сустракалася з камандамі школьнікаў Харкава, Растова-на-Доне, Казані, Калінінграда, Мінска, абласных цэнтраў рэспублікі.

Днямі ў Мінску праходзілі рэспубліканскія спаборніцтвы за месца ў першай і вышэйшай лігах. Сярод 50 каманд школ, тэхнікумаў, ПТВ, ВНУ нарачанцы адзіныя, хто выступаў на беларускай мове, і ў наступным сезоне каманда будзе прадстаўляць "курортны край" у першай лізе. Трэніруе каманду Фаіна Валюк. Яна складае праграмы выступленняў, рэжысуе. А выкладчык музычнай школы Аляксандр Галавач дапамагае агучваць.

*Яніна БУГЛАК.*

### Радавод

***МАЛАДЗЕЧНА. Пад гэтай назвай у мінулым годзе абвясціў конкурс паміж вучнямі школ рэспублікі і цяпер падводзіць яго вынікі "Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання".***

Днямі закончыўся абласны тур, на які дзеці прадставілі цікавыя работы-звесткі пра сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Пераможцамі конкурсу "Радавод" па Мінскай вобласці сталі вучні 6"Б" класа маладзечанскай СШ №6 Андрэй Сарока і Мар'ян Багданаў. Узнагарода пераможцам абласных тураў— пуцёўкі ў летнік "Зубраня". 15 мая "Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання" падвядзе вынікі заключнага тура конкурсу "Радавод".

*Аддзел інфармацыі.*

© PDF: Kamunikat.org 2019

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019


*Заканчэнне.*
*Пачатак на 1-й ст.*

# Панядзелак дзень цяжкі...



"Брыгада хуткага рэагавання" рэдакцыі ўжо ў 17.00 была пад дзвярыма кватэры шчаслiўчыка. Але давялося пачакаць колькі хвілін, пакуль прыйшлі гаспадары.

—Не можа быць!— першая рэакцыя Наталлі.

—Правільна зрабілі, што самі завезлі абанемент,— удакладняе яе муж Мікалай.

На панадворку рэдактар "РГ" уручыў чытачам Лабохам тэлевізар, які на працягу амаль трох месяцаў прыцягваў увагу прыхільнікаў "РГ". Думаю, што ў дзіцячым садку N11, дзе працуе памочнікам выхаваценя Наталля, і на гармалзаводзе, дзе выконвае сваю справу інжынер-механік Мікалай Лабоха, калегі будуць рады за нашых пераможцаў. Мы ж зычым ім упэўненага прыёму па ўсіх шасці каналах кабельнага тэлебачання, якое падключана да дома, а таксама шчасця і надалей заставацца разам з "Рэгіянальнай газетай", у планах якой яшчэ шмат прыемных неспадзяванак для сваіх падпісчыкаў.

А што да прыпевак нашай чытачкі з Крэва, то вось як яны завяршаюцца:

*Ў каго слава ды багацце,*
*І зала авальная.*
*У мяне мая сяброўка-*
*"Газета Рэгіянальная".*

*Мікола ГАЙДУК.*

***На фота Рамана КРЫЛОВА і Алега ГУЛЕЦКАГА момант тыражу латарэі (справа Оля ЯРШОВА), Наталля і яе муж Мікалай ЛАБОХІ толькі што неспадзявана атрымалі прыз ад рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты".***

***Цікава, колькі і адкуль было жадаючых паўдзельнічаць у розыгрышы нашага прыза?***

# Крыху статыстыкі

Падпісныя квіткі прыслалі 177 падпісчыкаў. З іх дзве арганізацыі: цэнтральная раённая бібліятэка ў Ашмянах і філіял акцыянернага камерцыйнага банка "ПОИСК" у Маладзечне. Астатнія- прыватныя асобы.

66 (37,29%) удзельнікаў падпісаныя былі на паўгода,
5 (2,82%) на люты— чэрвень,
6 (3,39%) на сакавік— чэрвень,
100 (56,50%) на квартал (красавік— чэрвень).

**Па раёнах статыстычныя паказчыкі наступныя:**

З Маладзечна удзельнікаў было ...... 71 (40,11%),
Маладзечанскага раёна-................ 11 (6.21%).
Вілейкі—...................................... 32 (18,08%),
Вілейскага раёна- ......................... 14 (7,91%),
Смаргоні— .................................. 17 (9,60%),
Смаргонскага раёна- ..................... 5 (2,82%),
Ашмянаў - ................................... 3 (1,69%),
Ашмянскага раёна - ...................... 2 (1,13%),
Валожына - .................................. 1 (0,56%),
Валожынскага раёна -..................... 4 (2,26%),
Мядзела - .................................... 1 (0,56%),
Мядзельскага раёна - .................... 4 (2,26%),
Астраўца - ................................... 5 (2,82%),
Астравецкага раёна - .................... 5 (2,82%),
Мінска - ...................................... 2 (1,13%).
З гарадоў і раённых цэнтраў— ........ 132 (74,58%),
З сельскай мясцовасці і пасёлкаў — . 45 (25,42%).

Статыстыка даволі поўна адлюстроўвае рэальны расклад нашых чытачоў увогуле. Найбольшая частка іх прыпадае на тры гарады рэгіёна-Вілейку, Смаргонь, Маладзечна. У Маладзечне распаўсюджваецца прыкладна палова агульнага тыражу нашай газеты.

*Аддзел статыстыкі.*

# Каму дастанецца 20 мільёнаў?

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Ветэранскі турнір па міні-футболе "Беразінскае-97", сярод арганізатараў якога і "Рэгіянальная газета", летам будзе праводзіцца ў трэці раз. Ён стаў папулярным і нават прэстыжным, пра што сведчаць увага да яго з боку Беларускай федэрацыі футбола і вялікая колькасць заявак на ўдзел.***

Федэрацыю сёлета будзе прадстаўляць Міхаіл Вергіенка (галоўны суддзя турніру). Што тычыцца заявак, то на 8 вакантных месцаў іх на сёння ў два разы болей. Непазбежна будуць адмаўленні.

На пасяджэнні аргкамітэта акрэслена кола найбольш рэальных удзельнікаў турніру, вызначаны рэзервовыя калектывы, якія пры неабходнасці змогуць замяніць выбыўшых. На турнір 1998 года вырашана падрыхтаваць палажэнне, па якім пяць лепшых мінулагодніх калектываў аўтаматычна запрашаюцца для ўдзелу, а за астатнія тры вакансіі паспрачаюцца ў адборачных гульнях усе жадаючыя.

Павышэнню папулярнасці турніру спрыяюць многія фактары. У ліку асноўных - выдатная арганізацыя (што ўжо цяпер адзначае М. Вергіенка), даволі значны прызавы фонд. Сёлета ён арыенціровачна складзе 20 мільёнаў рублёў (адпаведна 10, 6 і 4 мільёны за прызавыя месцы).

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

# Прапіска для "гангстэраў"

***ВІЛЕЙКА. Вёску Іжа можна назваць інтэрнатам для "гангстэраў".***

Летась 11 яе жыхароў пакараны за розныя правапарушэнні, у асноўным крадзяжы. Статус вёскі перыядычна пацвярджаецца. Днямі зноў жа за крадзяжы затрыманы сяброўкі— Вера Балаш і Таіса Місюль. Абедзвюм ледзь за 40.

*Аддзел інфармацыі.*

# Будуць свае акадэмікі

***Падчас веснавых канікулаў праходзілі рэспубліканскія алімпіяды вучняў. Віншуем пераможцаў з нашага рэгіёна: добрых ведаў і творчых поспехаў!***

| Горад/ раён | Прозвішча | Школа, клас | Прадмет | Месца/ дыплом | Настаўнік |
|---|---|---|---|---|---|
| **Смаргонь** | Зарына **Жамойціна** | СШ №4, 11 кл. | беларуская мова | II | **Г.Пітоленка** |
| | Яўген **Багданаў** | СШ №4, 11 кл. | астраномія | II | **Л.Путырская** |
| **Маладзечанскі р-н** | Наталля **Гіль** | Палачанская СШ, 9 кл. | біялогія | I | **А.Клімко** |
| **Вілейка** | Андрэй **Мацюлька** | СШ №3, 11 кл. | хімія | II | **С.Ляўко** |
| **Маладзечна** | Алег **Самаль** | Бел. гімназія, 10 кл. | нямецкая мова | I | **Л.Казак** |
| | Аксана **Шрымф** | Бел. гімназія, 11 кл. | нямецкая мова | II | **Л.Казак** |
| | Алена **Немцава** | Бел. гімназія, 11 кл. | руская мова | III | **С.Юрэвіч** |
| | Кацярына **Казінец** | СШ №2, 10 кл. | руская мова | II | **С.Зянько** |
| | Ганна **Дзяменцьева** | СШ №7, 9 кл. | руская мова | III | **І.Ларына** |
| | Аляксандр **Лук'яновіч** | СШ №9, 11 кл. | біялогія | III | **С.Чарнецкі** |
| | Вольга **Ганецкая** | СШ №5, 10 кл. | нямецкая мова | III | **А.Круглы** |
| | Таццяна **Звярко** | СШ №12, 9 кл. | беларуская мова | III | **І.Кузьміч** |

У астатніх гарадах і раёнах рэгіёна геніі падрастаюць.

*Сабраў звесткі Віталь ЗОЛАТЦА.*

## Не можа быць?

# Як Занкавіч выпраўляўся

***ВІЛЕЙКА. Грамадзянін А.Занкавіч удала пазбягаў пакарання за кіраванне транспартным сродкам нападпітку. Супрацоўнікі ДАІ неаднаразова спынялі яго на дарозе і па знешнім выглядзе, характэрным паху перагару канстатавалі відавочнае.***

Затрыманы прасіўся ў прыёмнае аддзяленне тэрытарыяльнага медыцынскага аб'ядназння. Там у яго бралі кроў на аналіз і кожны раз з'яўлялася афіцыйнае заключэнне: цвярозы. Апошні раз, як яго спынілі, Занкавіч, згодна з міліцэйскім пратаколам, знаходзіўся ў сярэдняй ступені алкагольнага ап'янення. Натуральна, быў змешчаны ў медвыцвярэзнік. А ў крыві алкаголю зноў не было. Міліцыянты ў цуд не паверылі і звярнуліся да галоўнага ўрача, каб даследаваць тую кроў больш дэталёва.

Вынікі аналізу ўразілі ўсіх. Нават і дарослыя маглі паверыць у нячысцікаў: канцэнтрацыя этылавага спірту ў крыві вадзіцеля ў некалькі разоў перавышала смяротную дозу.

Пазней высветлілася, што медсястра ТМА Давідовіч замяняла кроў Занкавіча (знаёмага ці сваяка?) на кроў яго маці. А старшая медсястра, што працавала ў адной змене з Давідовіч, і, магчыма, ведала аб яе маніпуляцыях, пад цяжарам магчымых наступстваў дэталёвага аналізу, уліла ў прабірку этылавы спірт. На вока.

Пасля справы з падменай крыві Анатоль зноў кіраваў машынай у нецвярозым стане і за непадпарадкаванне міліцыі атрымаў 7 сутак арыту. Аднак Андрэй Анатольевіч усё ж выправіўся. Калі чарговага разу яго спынілі за рулём— вадзіцель быў цвярозым. Толькі без вадзіцельскіх правоў.

*Аддзел інфармацыі.*

# «Каапэратыў» "Нябожчык"

***ВІЛЕЙКА. Тут узбуджана крымінальная справа за неаднаразовае атрыманне хабару ад сваякоў памерлых. Урач Мінскага абласнога паталагаанатамічнага бюро за анатаміраванне трупаў браў грошы.***

Звычайна адміністрацыя дае загад на анатаміраванне і ўстанаўленне прычыны смерці. Пасля нябожчыка аддаюць родным. Калі ў чацвер ці пятніцу труп прывозілі ў аддзяленне, урач, спасылаючся на недахоп часу, адкладваў выкананне сваіх службовых абавязкаў да панядзелка. Безумоўна, хаваць зручней на выхадныя— прасцей сабраць сваякоў, сяброў, калег. Таму людзі плацілі.

У інтарэсах следства многія дадзеныя па крымінальнай справе захоўваюцца ў тайне. Але мы правялі невялікае журналісцкае расследаванне і вось што высветлілі. Урач-"камерсант" не так даўно скончыў медінстытут. Акрамя паталагаанатамічнага аддзялення працаваў судмедэкспертам (скончыў неабходныя курсы). Карацей, быў манапалістам па анатаміраванні трупаў і таму дыктаваў умовы. У такіх выпадках не надта дзіўна, калі ўсплываюць факты, накшталт таго, што ў пацыентаў вырываліся залатыя каронкі зубоў.

У сістэме аховы здароўя хабарам нікога не здзівіш. За кожны крок трэба аддзячыць. У прэсе прайшла інфармацыя, што нейкі ўрач за кансультацыю хворага дзіцяці запатрабаваў 1 тысячу долараў. Аб клятве Гіпакрата цяпер гавораць з усмешкай.

*Аддзел інфармацыі.*

## Стартуе нацыянальны чэмпіянат па футболе

# Зборная свету згуляе за Беларусь

***Пачатак футбольнага сезона нясе ў сэрцы заўзятараў новыя надзеі. Рэдакцыя "РГ" не магла не пацікавіцца перспектывамі выступленняў зборнай краіны. Яе галоўны трэнер Міхаіл Вергіенка прыязна паставіўся да нашага выдання і адказаў на пытанні.***

**- Ад кожнага новага трэнера мы традыцыйна чакаем не проста паляпшэння спраў - цуда. Гульцы, здаецца, ёсць.**

- Сітуацыя ў нас сёлета сапраўды палепшала. Асабіста я ў будучыню гляджу з аптымізмам. У першую чаргу гэта звязана з тым, што многія нашы вядучыя гульцы перайшлі ў моцныя замежныя клубы. Па крайняй меры, туды, дзе высокі ўзровень чэмпіянатаў. Я пастаянна падтрымліваю сувязь з Лабаноўскім (апошні раз напачатку месяца размаўлялі), ён высока ацэньвае Бялькевіча і Хацкевіча - вы і самі маглі пераканацца ў гэтым па нядаўніх тэлетрансляцыях. Някепска выглядае Арлоўскі ў "Тарпеда-Лужніках", Штанюк, Яхімовіч і Астроўскі ў "Дынама" (на жаль, не маюць гульнявой практыкі Максім Рамашчанка і Кульчый). У добрай форме "спартакавец" Міраслаў Рамашчанка. Жадаюць выступіць за зборную многія, таму можна чакаць пад'ёму.

**- Чытачы часта пытаюцца пра лёс Герасімца.**

- Я дапамог яму з пераходам у "Балтыку", дзе ён заключыў кантракт. Пасля нядаўняй траўмы Сяргей зноў пачынае гуляць. Як заявіў сам футбаліст, ён вярнуўся ў футбол, каб хаця яшчэ раз згуляць за зборную Беларусі. Гэта будзе вялікай перавагай зборнай, калі і іншыя так скажуць.

**- А астатнія "калінінградцы"!**

- 100-працэнтны кандыдат у зборную - Герашчанка. Моцна выглядаюць Шуканаў, Баранаў і Шанталосаў. Сочым за "наварасійцамі" Вострыкавым і вашым Вяжэвічам, "ніжагародцам" Сацункевічам. Гарыць жаданнем Мятліцкі, праўда, пакуль у яго траўма. Па водгуках прэсы, някепска выступае ў Англіі Качура. Трэнеры "Растсельмаша" звятаюць маю ўвагу на Антановіча. Заканчваецца футбольная кар'ера Вялічкі і па-чалавечы шкада хлопца, які нідзе толкам так і не згуляў, але і яму сказана: зайграеш у якім клубе - калі ласка, у зборную.

**- Вы не назвалі "забівалу". І не згадалі прозвішча Макоўскі. А тут яшчэ паведамленні пра цікавасць да яго з боку бельгійцаў. Кажуць, і за мільён Хвастовіч таго не прадаў.**

- Наконт апошняга - пытанне да Хвастовіча. Хаця ёсць вызначаны парадак пераходаў у іншыя клубы: пэўныя тэрміны, пастаноўка на трансфер. Спантанна такое не бывае. Што тычыцца непасрэдна гульні Уладзіміра, то вельмі спадзяемся на бамбардзірскія якасці выхаванца маладзечанскага футбола.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

***МАЛАДЗЕЧНА. У ФК "Маладзечна" пачынаюць сезон 5 выхаванцаў мясцовага футбола. Праўда, на праглядзе яшчэ трое. Стаўка ў горадзе заўсёды рабілся на "варагаў".***

Цяжкасці з фінансаваннем вымусілі 9 асноўных гульцоў пасля леташняга сезона перайсці ў іншыя клубы. Вяжэвіч, напрыклад, гуляе ў "Чарнаморцы" з Наварасійска, Лебедзеў у клубе, які стаў чэмпіёнам Эстоніі.

Сёлета клуб пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера Ігара Бялова за поспех палічыць, калі трапіць у васьмёрку мацнейшых каманд нацыянальнага чэмпіянату. І, мусіць, прыйдзецца звыкнуцца з апушчанымі галовамі кіраўнікоў клуба.




*Пасля леташняга паражэння на сваім полі ад МВКЦ.*
*Фота Рамана КРЫЛОВА.*

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



Маладзёжная
РЭГІЯНАЛЬНАЯ газета

№ 1

Адгаданка

# Пачынайце дзень з усмешкі!

*Пачынайце дзень з усмешкі, як гэта наша тройца: два спевакі і хтосьці Ліза. Паспрабуйце адгадаць: хто гэта ўсміхаецца для вас. Дасылайце адказы і свае фота. Хто патрапіць адгадаць-- убачыць у газеце свой твар. Не хвалюйцеся-- з "вашай" усмешкай. Фатаграфіі вернем.*







Прыслухайся

*Некаторыя людзі думаюць, што калі хто-небудзь ікае, то ён захварэў, ябо яму холадна. Але вучні школы N3 Вілейкі мяркуюць інакш- іканне можа прынесці і радасныя змены ў жыцці. Можа прынесці змены і не вельмі добрыя. Давайце прыслухаемся, калі нам лепш ікаць, калі-не.*

## Ікаўка



Панядзелак- атрымаеш пісьмо
Аўторак- сустрэча з каханым
Серада- аб табе думае каханы
Чацвер- сустрэча з роднымі
Пятніца- радасны настрой
Субота- няўдача
Нядзеля- закахаешся

*Яўгенія ЯЛІНА, 6 "Б" клас СШ N3 Вілейкі*

Ад складальнікаў "Маладзёжкі". Дасылайце ў рэдакцыю "МРГ" вядомыя вам ікаўкі, чхалкі, спатыкалкі, пазяхалкі, соннікі... Самыя цікавыя могуць быць змешчаны на старонках нашага ўкладыша.

## Беспрацоўе - наш спадарожнік

*Пытанні працаўладкавання. Хвалюючыя і адначасова балючыя для моладзі. Дзе знайсці сур'ёзную, з дастатковымі заробкамі работу?*

*МАЛАДЗЕЧНА.* У рэгіянальным цэнтры занятасці стаяць на ўліку ўчарашнія навучэнцы тэхнікумаў, вучылішчаў. Нават калі ёсць вакансіі, многія адмаўляюцца ад іх з-за нізкай зарплаты ў 200-300 тысяч рублёў. Таму і атрымліваецца, што работу знаходзяць адзінкі. Летась з 38 выпускнікоў улікова-планавага тэхнікума, якія сталі на ўліку на "біржы працы", уладкаваліся 7. Са 105 выпускнікоў палітэхнікума - 20. З 45 спецыялістаў, якія скончылі ПТВ-21, не ўладкаваўся ніхто.

Калі так адбываецца з падлеткамі, якія атрымалі спецыяльнасць, то як быць з непаўналетнімі? Тымі, якія пасля 9 класаў хочуць пайсці працаваць. І з тымі падлеткамі, якія падчас вучобы імкнуцца падзарабіць, каб мець уласныя грошы.

Летась з 68 падлеткаў уладкаваліся 18. А ўжо ў студзені на ўліку ў цэнтры занятасці было 72 чалавекі. Летам напружанне спадае. Гаспадаркі раёна запрашаюць да сябе. Іншая справа, што не ўсім хочацца працаваць на калгасных палетках. Здаецца, лепш купацца ў рэчцы.

Сярод выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў малюнак больш-менш. З іх толькі 15 чалавек стаяць на "біржы". Прадпрыемствы запрашаюць да сябе, але перавагу надаюць тым, хто мае стаж работы па спецыяльнасці. Таму даводзіцца моладзі ў чаканні работы сядзець дома. А калі яна з'явіцца, - невядома.

Работы мала - беспрацоўных многа. Канкурэнцыя. Пакуль наш час абвяргае перакананне Маякоўскага: " Все работы хороши - выбирай на вкус".

*Ірына БАНДАРЫК*
*Таццяна ЖОГЛА,*
*вучаніцы маладзечанскай школы мастацтваў.*




**Маладзёжны ўкладыш падрыхтаваны старшакласнікамі і студэнтамі як эксперымент. Плануецца яго рэгулярны выпуск. Запрашаем да супрацоўніцтва!**

**Тэл. для даведак у Маладзечне 69667.**
**У падрыхтоўцы матэрыялаў узяла ўдзел грамадская арганізацыя "Саната - Таленавітыя дзеці".**

Віртуальныя цацкі

## Чырвоная пагроза




Лета 1939 года. Савецкая Расія. Кабінет Сталіна. Да Самога даходзіць вестка аб тым, што раптоўна знік Адольф Гітлер. Узрадаваны Іосіф Вісарыёнавіч першым аб'яўляе вайну Еўропе. Яго мэта - чырвоны тэрор на ўсёй Зямлі. Амаль імгненна стварaецца альянс супраць. Гэта Сталіна не палохае, машына запрацавала, звер пачаў паляванне. Чырвоная армада рушыла на захад. Пачалася вайна - жудасная, страшэнная, бязлітасная.

Я затрацію шмат часу, каб вызначыць пераможцу. Гуляў, не адрываючыся. Быў фанатам-воінам, каральнікам. Атакаваў, трымаў абарону, трапляў у акружэнні, але імкнуўся да перамогі, жадаў яе. Выйграе хітрэйшы, той, хто выкарыстоўвае новыя віды тэхнікі, думае над стратэгіяй, не забываецца аб моцы ворага.

Напачатку стаяў выбар: аддаць жыццё за альянс, ці за Савецкі Саюз. Я выбраў альянс. СССР - моцны вораг. Ён змагаўся да апошняга. Гэта была бойка "сценка на сценку". Але пасля доўгіх (каля 50 узроўняў) змаганняў альянс перамог. Я адчуваў сябе сапраўдным пераможцам, бо на экране манітора трыумф выглядаў рэалістычна. Пасля такой вайны ўспаміны застануцца надоўга.

Я - прыхільнік камп'ютэрнай гульні **"RED ALERT"** (Чырвоная пагроза).

*Ігар ВОЙТКА,*
*Маладзечна,*
*беларуская гімназія.*

Адпачынак

# Непаслухмяных коней няма. Ёсць вершнікі - непрафесіяналы

*МІНСК. Конны спорт адзін з самых старажытных. Бег рысакоў, іх прыгожыя рухі ў выездцы, азарт барацьбы збіраюць на іпадромах мноства гледачоў. Алена Мароз - студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М.Танка:*

– Мне было 4, калі ўпершыню паехала ў вёску. Памятаю дрэвы, што мільгалі за вокнамі цягніка, пераправу праз паўнаводную цёмную Дзвіну і каня - вялізнага, дабрадушнага, запрэжанага ў калёсы. Я доўга хадзіла вакол яго, гладзіла, а потым цэлых 5 мінут трымала ў руках грубыя брызентавыя лейцы. Памятаю, як дзедавы рукі пасадзілі на каня. А гадоў праз 10, ужо на конна-спартыўнай базе, што ў Ратамцы, трэнер неяк бяздушна скамандаваў: "Змена, рыссю марш!"

*- Вага каня 400-600 кг, ударам задніх ног можа забіць чалавека. Укусіць і тым нанесці траўму. Табе не было боязна? І што адчуваеш, калі ў сядле?*

- Кожны раз адчуваю захапленне. І зусім не важна, хто пад сядлом, - чыстакроўны прыгажун ці проста вясковы працаўнік. Страху не адчуваю. Але да незнаёмца падыходжу асцярожна. Наравістага сядлаю з хваляваннем.

*- Сустракаюцца непаслухмяныя?*

- Я не люблю паслухмяных. Можа, таму што вышкаленыя траплялі да мяне рэдка. Не люблю такі від спаборніцтваў, як выездка. Там ацэньваецца перш за ўсё паслухмянасць. За такую дробязь, як маханне хвастом здымаюць балы. Нехта з класікаў сказаў: па-сапраўдным прыгожы конь толькі дзікі. Таму, магчыма, і даю каню крыху больш свабоды, чым належыць.

*- Ці траплялa ты ў складаныя сітуацыі?*

- Часцей за ўсё, па ўласнай віне. Небяспечны выпадак здарыўся, калі я аб'язджала данскога жарабца па мянушцы Малюнак. Таго напалохала птушка, таму ён узняўся на дыбы, не ўтрымаўся на нагах, зваліўся. Цудам я паспела саскочыць.

*- Што больш важна - добра трэніраваны конь, ці майстэрства вершніка?*

- Адно аднаму дадаецца. А ўсё ж перавагу аддаю майстэрству чалавека. Ад неабучанага каня яшчэ можна штосьці дабіцца. А непрафесіянал можа сапсаваць любога каня.

*- З чаго складаецца майстэрства верхавой язды?*

- З любві, таленту, цярпення і жадання.

*Алена ГАРУНОВА.*

© PDF: Kamunikat.org 2019

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



# ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАННЯ

БТ · 1 · РТР · 5 · НТВ · ТВ6

## Понедельник, 14 апреля

**БТ** 7.30 Утренний коктейль. 7.45, 17.50 Музобойма. 7.50, 17.40 Экономикст. 8.00 Резонанс. 8.50 Телебарометр. 9.00 Здоровье. 9.30 "Тихие троечники". Х/ф для детей. 1-я с. 10.35 Телевизионный Дом кино. 11.00 Темная комната. 11.30, 18.20 Истории знаменитых побегов. 12.25 Бон тон. 13.00, 15.00, 18.00, 0.35 Новости. 13.10 "Одна ночь генерала Скорнякова". Спектакль. 14.40 Д/ф. 15.15 Фр. язык. 15.45 М/ф. 15.55 ТВ — школе. 16.15 На добрый лад. 16.30 Гости в дом. 17.00 Музантракт. 17.10 Параграф. 19.15 Тема дня. 19.35 Творцы. 20.20 Кто это? 20.25 Музантракт. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.50 Х/ф "Садовник". 23.40 И.Брамс. Концерт для фортепиано с оркестром.

**1** 11.00, 14.00, 17.00, 23.20 Новости. 11.15 "Тайна королевы Анны, или Мушкетеры тридцать лет спустя". 1-я с. 12.55 Футбольное обозрение. 13.15 Парижские тайны Э. Рязанова. 14.20 М/ф. 14.45 Марафон-15. 15.05 Звездный час. 15.40 "Нико и его друзья". 16.10 ...До 16 и старше. 16.35 Вокруг света. 17.20 "Девушка по имени Судьба". 18.10 Час пик. 18.35 Угадай мелодию. 19.05 Программа "Мы". 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.45 Х/ф "Слуга". 23.30 Пресс-экспресс

**РТР** 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.15 С добрым утром! 8.05 "Клубничка". 8.35 Сам себе режиссер. 9.10, 18.50 Санта-Барбара. 13.20 Ти-маркет. 13.25 Автограф. 13.30 Тихий дом. 14.10 Иванов, Петров, Сидоров и другие. 14.50 Аниматека. 15.20 Палиха, 14. 15.25, 24.00 Товары — почтой. 15.30 "Клубничка". 16.15 Там-там новости. 16.25 Лукоморье. 16.50 Посмотри на себя. 17.00 "Красная книга". 17.15 Пульс. 17.45 Россияне. 19.35 Добрый вечер. 20.10 "Три сестры". Х/ф. 22.35 "На коне". 22.50 Дежурная часть. 23.15 Адамово яблоко. 0.20 Телемагазин.

**5** 11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Информ ТВ. 12.10 "История любви". 13.00 Срок ответа — сегодня. 13.35 Советы садоводам. 14.10 Международное обозрение. 14.40 Открытие Китая. 15.05 Овертайм. 15.35, 20.45 Телеслужба безопасности. 16.10 "У Игоря Д." Театральная гостиная. 16.50 Детское ТВ. 18.40 Большой фестиваль. 19.15 Спорт. 19.20 История любви. 20.10 Ритмы города. 21.00 **Кубок Англии по футболу.**

**НТВ** 5.00 Сегодня. 9.15 Утречко. 9.30 Х/ф "Свободный камень" (Исп). 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня. 12.00 Открытый мир. 13.20 Времечко. 15.35 Дистанция 60. 16.35 Х/ф "Голубое дерево". 17.30 **Футбольный клуб.** 18.00, 21.00 Сегодня. 18.40 Герой дня. 19.05 Х/ф "Охрана" (Ит). 21.45 "Крутой Уокер". 22.40 Времечко. 23.00 Сегодня. 23.20 Времечко.

**ТВ6** 6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.55 6 новостей. 6.10, 23.20 Диск-канал. 6.40, 13.20 М/ф. 7.10, 23.10 Дорожный патруль. 7.30, 13.05 90 х 60 х 90. 7.45, 10.20 Аптека. 8.10 Киноподробно. 8.30 ОСП-студия. 9.20 Париж, Париж. 9.50 Спорт. 11.00 Обозреватель. 11.45, 18.10 "Рабыня Изаура". 12.25 Знак качества. 19.05 Ток-шоу "Музыка и пресса". 20.15 Театральный понедельник. 21.05 А. Баталов. 22.25 Катастрофы недели.

## Вторник, 15 апреля

**БТ** 7.30 Утренний коктейль. 7.45, 16.50 "Музыкальная обойма". 7.50 Экономикст. 8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.30 Новости. 8.10 "Тема для органа". Д/ф. 8.20 М/ф. 9.00 ТВ — школе. Музыка. 9.20 "Тихие троечники". Х/ф. 2-я с. 10.25 М/ф. 10.40 "Золотые ключи". 11,15 Х/ф "Медведь". 12.00 Четвертое измерение. 12.25 Акколада. 15.10 Остров вдохновения. 15.50 ТВ — школе. История Беларуси. 16.20 Белорусский меридиан. 16.55 Чемпионат мира по хоккею. Беларусь — Казахстан. 19.35 Вертикаль. 20.00 Телевизионный Дом кино. 20.25 Музыкальный антракт, 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.50 "Блеск и нищета куртизанок". 6-я с. 23.00 Третий тайм. 23.40 Каратэ. Чемпионат Беларуси.

**1** 11.00, 14.00, 17.00 Новости. 11.15 "Тайна королевы Анны, или Мушкетеры тридцать лет спустя". 2-я с. 12.45 Служу России! 13.15 Парижские тайны Эльдара Рязанова. 14.20 "Легенды острова сокровищ". М/ф. 14.45 Кварьете "Веселая квампания". 14.55 Мультитроллия. 15.15 Волшебный мир, или Синема. 15.40 "Нико и его друзья". 16.10 ...До шестнадцати и старше. 16.35 Вокруг света. 17.20 "Девушка по имени Судьба". 18.05 Погода. 18.10 Час пик. 18.35 Угадай мелодию. 19.00 Тема. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.45 Алла Пугачева в программе "Сюрприз для Аллы, или Старые песни от главной".

**РТР** 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.15 С добрым утром! 8.05 "Клубничка". 8.35 Караоке по-русски. 9.10 "Санта-Барбара". 13.20 Ти-маркет. 13.25 Автограф. 13.30 "Неизвестные люди России". Фильм 1-й. 14.10 Иванов, Петров, Сидоров и другие. 14.50 Образ жизни. 15.20 Манекен. 15.25, 0.05 Товары — почтой. 15.30 "Клубничка". 16.15 Там-там новости. 16.25 Лукоморье. 16.50 Посмотри на себя. 17.00 "Красная книга". 17.15 Новое "Пятое колесо". 17.45 Россияне. 18.05 "Санта-Барбара". 19.35 Добрый вечер. 20.25 "Вратарь". Х/ф. 22.35 Момент истины. 23.05 Горячая десятка. 0.25 Телемагазин.

**5** 11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Информ ТВ. 12.10 "История любви". 13.00 Срок ответа — сегодня. 13.35 Советы садоводам. 14.10 Папа, мама и я — спортивная семья. 14.45 "Странный мир института Уилсона Эмери". Х/ф (США). 1-я с. 15.40, 20.45 Телеслужба безопасности. 16.05 "Парад парадов" представляет. 16.45 Детское ТВ. 17.30 Телемагазин. 18.40 Большой фестиваль. 19.15 Спорт. 19.20 "История любви". 20.15 Храм. 21.00 "Странный мир института Уилсона Эмери". Х/ф (США). 1-я с. 22.05 Событие. 22.20 Спортивное обозрение. 22.25 Хоккей.

**НТВ** 5.00 Сегодня утром. 9.15 Утречко. 9.30 Х/ф "Невеста святого Павла" (Италия). 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня днем. 12.00 Открытый мир. 13.20 Большое "Времечко". 15.35 Дистанция 60. 16.35 "Голубое дерево". Х/ф. 17.30 Улица Сезам. 18.00, 21.00 Сегодня вечером. 18.40 Герой дня. 19.05 "Отель". Х/ф (США). 21.45 "Крутой Уокер". 22.40 Времечко. 23.00 Сегодня в полночь. 23.20 Времечко. 24.00 Меломания: "LED ZEPPELIN: песня остается неизменной". Часть 1-я.

**ТВ6** 6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45 Шесть новостей. 6.10, 23.10, 0.20 Диск-канал. 6.40, 13.20 М/ф 7.10, 23.00 Дорожный патруль. 7.20 Рецепты от "Цептер". 7.30, 13.05 90 х 60 х 90. 7.45, 10.10 Аптека. 8.10 Телеконкретно. 8.30 Пальчики оближешь. 9.05 Клуб одиноких сердец. 9.40 Вы — очевидец. 11.00 Ералаш. 11.25, 18.10 Рабыня Изаура. 12.05 Знак качества. 19.05 Ток-шоу "Профессия". 20.15 "Династия II". 21.10 Те Кто. 21.40 Новые мстители. 22.35 Шоу Бенни Хилла. 0.00 Знак качества.

## Среда, 16 апреля

**БТ** 7.30 Утренний коктейль. 7.45, 17.50 "Музыкальная обойма". 7.50, 17.40 Экономикст. 8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.10 Новости. 8.10 "В плену юности своей..." Д/ф. 8.40 Туробъектив. 9.00 ТВ — школе. История Беларуси. 9.30 Мультиклуб. 10.00 Короткометражные фильмы. 10.30 Бездельник. 11.05, 18.20 Сериал "Истории знаменитых побегов". 12.00 **Видимо-невидимо.** 15.15 Видеокурс французского языка. 15.45 "Остров вдохновения". 16.10 "Ивенецкие гончары". Телеочерк. 16.30 Гости в дом. Мост. 17.00 Музыкальный антракт. 17.10 Арсенал. 19.15 Тема дня. 19.35 Темная комната. 20.00 Ток-шоу "Это моя работа". 20.25 Автопарк. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.45 "Цептер" с миссией здоровья по всему миру". Видеофильм. 21.50 Чемпионат мира по хоккею. Беларусь — Нидерланды. 23.30 "Королевская охота". 0.20 **Футбол.** Чемпионат Беларуси. **"Динамо" (Брест) — "Динамо" (Минск).**

**1** 11.00, 14.00, 17.00, 23.15 Новости. 11.15 Х/ф "Небесные ласточки". 1-я с. 12.35 "Колесо истории". 13.15 Парижские тайны Эльдара Рязанова. 14.20 "Легенды острова сокровищ". М/ф. 14.45 Кактус и К. 14.55 До-ми-соль. 15.15 Зов джунглей. 15.40 "Нико и его друзья". 16.10 ...До шестнадцати и старше. 16.35 Вокруг света. 17.20 "Девушка по имени Судьба". 18.05 Погода. 18.10 Час пик. 18.35 Угадай мелодию. 19.00 Парижские тайны Эльдара Рязанова. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.45 Х/ф "Начальник Чукотки". 22.30 Анастасия Вертинская в новой программе "Другие берега". 23.25 Пресс-экспресс.

**РТР** 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.15 С добрым утром! 8.05 "Клубничка". 8.35 L-клуб. 9.10 "Санта-Барбара". 13.20 Ти-маркет. 13.25 Автограф. 13.30 Окно. 13.55 Ноу-хау. 14.10 Иванов, Петров, Сидоров и другие. 14.50 Парламентарий. 15.20 Экспо-вестник. 15.30 "Клубничка". 16.15 Там-там новости. 16.25 Лукоморье. 16.50 Посмотри на себя. 17.00 Ваше право. 17.15 Люди, деньги, жизнь... 17.45 Россияне. 18.05 "Санта-Барбара". 19.35 Добрый вечер. 20.25 Баскетбол. 22.35 "Гете, Малер, Светланов... Остановись, мгновенье!" 23.30 Кафе "Обломов". 0.10 Товары — почтой. 0.30 Телемагазин.

**5** 11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Информ ТВ. 12.10 "История любви". 13.00 Срок ответа — сегодня. 13.35 Советы садоводам. 14.10 "Раймонды многоликий образ". Фильм-балет. 14.45 "Странный мир института Уйлсона Эмери". 2-я с. 15.35, 20.45 Телеслужба безопасности. 16.10 Еще одна Россия. 16.55 Зебра. 17.30 Телемагазин. 18.40 Большой фестиваль. 19.15 Спорт. 19.20 "История любви". 20.15 Финансы для региона. 21.05 "Странный мир института Уилсона Эмери". 2-я с. 22.05 Событие. 22.20 Спортивное обозрение. 22.30 "Телекомпакт".

**НТВ** 5.00 Сегодня утром. 9.15 Утречко. 9.30 Д/ф "Дикая природа". 10.30, 17.30 "Улица Сезам". 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня днем. 12.00 Открытый мир. 13.20 Большое "Времечко". 15.35 Дистанция 60. 16.35 "Голубое дерево". Х/ф. 18.00, 21.00 Сегодня вечером. 18.40 Герой дня. 19.05 "Игра в бильярд: поцелуйчик". Х/ф (США). 20.45 Русский альбом. 21.45 "Крутой Уокер: правосудие по-техасски". 22.40 Времечко. 23.00 Сегодня в полночь. 23.20 Ночное "Времечко". 24.00 Меломания: "LED ZEPPELIN: песня остается неизменной". Часть 2-я.

**ТВ6** 18.10 Сериал "Рабыня Изаура". 18.55, 20.05, 22.45 Шесть новостей. 19.05 Ток-шоу "Я сама". 20.15 "Династия II (Семья Колби)". 21.10 Те Кто. 21.40 "Новые мстители". 22.35 Шоу Бенни Хилла. 23.00 Дорожный патруль. 23.13, 0.20 Диск-канал. 0.00 Знак качества.

## Четверг, 17 апреля

**БТ** 7.30 Утренний коктейль. 7.45, 17.50 "Музыкальная обойма". 7.50, 17.40 Экономикст. 8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.45 Новости. 8.10 Автопарк. 8.20 Вертикаль. 8.50 Телебом. 9.20 Гости в дом. 9.50 Музыка без границ. 10.20, 18.20 Сериал "Истории знаменитых побегов". 11.15 Королевская охота. 11.55 М/ф. 12.10 Концертный сезон. 15.15 Педагогический экран. 15.45 ТВ — школе. Белорусская литература. 16.15 2-й Международный фестиваль "Звенят цимбалы и гармонь". 17.00 Музыкальный антракт. 17.10 Уроки Н.Новожиловой. 19.15 Тема дня. 19.35 "Простые истории". 19.55 "АТР-клуб". 20.30 Весна крестьянских хлопот. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.50 "Телебарометр". 22.05 "Блеск и нищета куртизанок". 7-я с. 23.15 "Крок".

**1** 11.00, 14.00, 17.00, 23.10 Новости. 11.15 "Небесные ласточки". 2-я с. 12.35 Очевидное — невероятное. 13.00 "И воскреснет душа". 13.15 Парижские тайны Эльдара Рязанова. 14.20 "Легенды острова сокровищ". М/ф. 14.45 До-ми-соль. 15.10 Лего-го! 15.40 "Нико и его друзья". 16.10 ...До шестнадцати и старше. 16.35 Вокруг света. 17.20 "Девушка по имени Судьба". 18.05 Погода. 18.10 Час пик. 18.35 Джентльмен-шоу. 19.05 Моя семья: любовь и ревность. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.45 Х/ф "Тревожное воскресенье". 22.25 "Звезды мировой эстрады в Москве". Тото Кутуньо. 23.20 Пресс-экспресс.

**РТР** 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.15 С добрым утром! 8.05 "Клубничка". 8.35 Бесконечное путешествие. 9.10 "Санта-Барбара". 13.20 Ти-маркет. 13.25 Автограф. 13.30 Момент истины. 13.55 "Красная книга". 14.10 Иванов, Петров, Сидоров и другие. 14.50 На пороге века. 15.20 Ваш партнер. 15.25, 23.45 Товары — почтой. 15.30 "Клубничка". 16.15 Там-там новости. 16.25 Лукоморье. 16.50 Посмотри на себя. 17.00 "Темная" для В.Виноградова. 17.15 Избранные. 17.45 Россияне. 18.05 "Санта-Барбара". 19.35 Добрый вечер. 20.25 Х/ф "Вий". 22.35 Арена для сенсаций. 23.00 По вашим письмам. 0.05 Телемагазин.

**5** 11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Информ ТВ. 12.10 "История любви". 13.00 Срок ответа — сегодня. 13.35 Советы садоводам. 14.15 Черный кот. 14.45 "Тревожный рейс номер 711". Х/ф (США). 1-я с. 15.35, 20.45 Телеслужба безопасности. 16.05 Закулисье. 16.50 Детское ТВ. 17.30 Телемагазин. 18.40 Большой фестиваль. 19.15 Спорт. 19.20 "История любви". 20.15 Парадоксы истории. 21.05 "Тревожный рейс номер 711". Х/ф (США). 1-я с. 22.05 Событие. 22.20 Спортивное обозрение. 22.30 "Мы — артисты!"

**НТВ** 5.00 Сегодня утром. 9.15 Утречко. 9.30 "Доктор Куин, женщина-врач". 10.30, 17.30 "Улица Сезам". 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня днем. 12.00 Открытый мир. 13.20 Большое "Времечко". 15.35 "Дистанция 60" + "Щелчок". 16.35 "Голубое дерево". Х/ф. 18.00, 21.00 Сегодня вечером. 18.40 Герой дня. 19.05 "Обрученные со смертью". Х/ф (США). 21.45 "Крутой Уокер: правосудие по-техасски". 22.40 Времечко. 23.00 Сегодня в полночь. 23.20 Ночное "Времечко". 24.00 Х/ф "Очки в золотой оправе" (Италия-Франция-Югославия).

**ТВ6** 6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45 Шесть новостей. 6.10, 23.10, 0.20 Диск-канал. 6.40, 13.20 М/ф "Ветер в ивах". 7.10, 23.00 Дорожный патруль. 7.20 Рецепты от "Цептер". 7.30, 13.05 90 х 60 х 90. 7.45, 10.15 Аптека. 8.10 Частный случай. 8.25 "Назло рекордам!" 8.50 Документальный сериал "По следам Всемогущих". 9.20, 20.15 "Династия II (Семья Колби)". 10.25, 12.25 Телемагазин "Спасибо за покупку!" 11.00 "Ералаш". 11.25, 18.10 "Рабыня Изаура". 12.05 Знак качества. 19.05 Ток-шоу "Сделай шаг". 21.10 Те Кто. 21.40 "Новые мстители". 22.35 Шоу Бенни Хилла. 0.00 Знак качества.

## Пятница, 18 апреля

**БТ** 7.30 Утренний коктейль. 7.45, 16.50 "Музыкальная обойма". 7.50 Экономикст. 8.00, 13.00, 15.00, 17.35, 0.05 Новости. 8.10 "Телебарометр". 8.20 Вселенная. 8.55 "Девки ворожат, девки чаруют..." 9.00 ТВ — школе. Белорусская литература. 9.30 Бархатный сезон. 10.00 Х/ф "Переход". 10.30 "Все мы родом из детства". 11.25 "АРТ-клуб". 12.05 "Одна ночь". Короткометражный фильм. 15.15 Видеокурс французского языка. 15.45 Творцы. Поэт Павлюк Пранузa. 16.00 Усадьба. 16.30 "Замки и крепости". Телеочерк. 16.55 Чемпионат мира по хоккею. Беларусь — Швейцария. 19.35 Международный курьер. 19.55 "В джазе только девушки". 20.25 Музыкальный антракт. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.50 Х/ф "Скорая помощь" (США). 23.35 Акколада.

**1** 11.00, 14.00, 17.00, 23.15 Новости. 11.15 Х/ф "Гулящая". 12.40 Джентльмен-шоу. 13.10 Парижские тайны Эльдара Рязанова. 14.20 "Легенды острова сокровищ". М/ф. 14.45 Фильм-сказка "Конек-горбунок". 15.55 ...До шестнадцати и старше. 16.30 Магия: мир сверхъестественного. 17.20 "Девушка по имени Судьба". 18.10 Погода. 18.15 Человек и закон. 18.45 Поле чудес. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.45 Х/ф "Забытая леди". 22.30 Взгляд. 23.30 Х/ф "Псы войны". 1.20 Пресс-экспресс.

**РТР** 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.15 С добрым утром! 8.05 "Клубничка". 8.35 "Аншлаг" представляет. 9.10 "Санта-Барбара". 13.20 Ти-маркет. 13.25 Автограф. 13.30 М/ф. 13.40 Подвиг веры. 14.10 Иванов, Петров, Сидоров и другие. 14.50 Золотая карта России. 15.20 Палиха, 14. 15.25, 23.55 Товары — почтой. 15.30 "Клубничка". 16.15 Там-там новости. 16.25 Лукоморье. 16.45 Посмотри на себя. 17.00 Ничего, кроме... 17.15 Парламентский вестник. 17.45 Россияне. 18.05 "Санта-Барбара". 19.35 Добрый вечер. 20.25 Баскетбол. 22.35 Богема. 23.15 Ночной экспресс. 0.15 Телемагазин.

**5** 11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Информ ТВ. 12.10 "История любви". 13.00 Срок ответа — сегодня. 13.35 Советы садоводам. 14.10 Ток-шоу "Наобум". 14.40 "Тревожный рейс номер 711". 2-я с. 15.30 М/ф. 15.40, 20.45 Телеслужба безопасности. 16.10 Штрихи к портрету авангарда. 16.55 Белая полоса. 17.30 Телемагазин. 18.40 Большой фестиваль. 19.15 Спорт. 19.20 "История любви". 20.15 Звездный розыгрыш. 21.00 "Тревожный рейс номер 711". 2-я с. 22.05 Событие. 22.20 Хоккей. 23.00 "Фрейд".

**НТВ** 5.00 Сегодня утром. 9.15 Утречко. 9.30 "Доктор Куин, женщина-врач". 10.30 "Улица Сезам". 11.00, 13.00, 15.00 Сегодня днем. 12.00 Открытый мир. 13.20 Большое "Времечко". 15.35 Дистанция 60. 16.35 Х/ф "Голубое дерево". 17.30 Футбольный клуб. 18.00, 21.00 Сегодня вечером. 18.40 Герой дня. 19.05 Х/ф "Бриллиантовая рука". 21.45 "Крутой Уокер: правосудие по-техасски". 22.40 Времечко. 23.00 Сегодня в полночь. 23.20 Ночное "Времечко". 23.45 "Жар тела". Х/ф (США).

**ТВ6** 6.00, 8.00, 13.50, 18.40, 20.40, 23.15 Шесть новостей. 6.10, 23.45, 0.50 Диск-канал. 6.40, 13.20 М/ф "Ветер в ивах". 7.10, 23.30 Дорожный патруль. 7.20 Рецепты от "Цептер". 7.30, 13.05 90 х 60 х 90. 7.45, 10.15 Аптека. 8.10 Частный случай. 8.30 Ток-шоу "Мое кино". 9.25 "Династия II (Семья Колби)". 10.25, 12.35 Телемагазин "Спасибо за покупку!" 11.00 Х/ф "Вьетнам — Техас". 18.10 Вы — очевидец. 18.55 Х/ф "Удар, еще удар". 20.55 Клуб "12 копеек". 21.25 Х/ф "Сильнейший удар". 0.30 Знак качества.

## Пункты прыёму аб'яў

**Маладзечна:** вул. Б. Хмяльніцкага, 10, рэдакцыя (будынак інтэрната палітэхнікума). Тэл. для даведак **69667.**

**Вілейка:** гасцініца: "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус". Тэл. для даведак **55194.**

**Смаргонь:** 1) магазін "Журавінка", "Фуджы-цэнтр" (пункт прыёму аб'яў "Новой газеты Сморгони"). 2) Дом быту, вул. Савецкая, 5, студыя гуказапісу (пункт прыёму аб'яў "Новой газеты Сморгони"). Тэл. для даведак **51635.**

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019


Міласэрнасць

# Рукавічка для матулі

*ВІЛЕЙКА. Калісьці ў мясцовай школе-інтэрнаце вучыліся 18 сацыяльных сірот. Штогод лічба павялічвалася амаль на 10 чалавек. Сёння больш за семдзесят хлапчукоў і дзяўчынак апякаюць і дзяржава, і людзі з вялікім сэрцам. Менавіта ім, названым мамкам, дзеці кожнае свята рыхтуюць падарункі, зробленыя сваімі рукамі. Каму рукавічку, каму самаробныя каляндарыкі.*



Год з 10 таму адміністрацыя сутыкнулася з праблемай - сацыяльнай адаптацыяй дзяцей. Напрыклад, школьнік не ведаў, колькі лыжак цукру класці ў шклянку чаю, як гатуецца ежа. Тады і была перагледжана пазіцыя і зняты прымхі - дзеці пайшлі ў сем'і. У Валянціны Юдзінай сваіх чацвёра. Але ўжо гадоў з 5 сябруе з сіротамі. Запрашае да сябе ў сям'ю. Разам з Уладзікам успамінаюць і смяюцца, як той, першакласнік, не меў уяўлення аб газе. Як у першае наведванне "дзяржаўныя" дзеці прасілі "кіпячонай" бульбы з капусткай. Сяброўка Тоні Белабровік тэлефанавала ў школу - ў Тоні нарывае пальчык, каб дагледзелі. Клапоцяцца аб здароўі, вучобе "мамы" Аксаны і Машы.

У вучняў школы-інтэрната многа сяброў. Сустрэчы адбываюцца нягледзячы на дарагое жыццё. Прыйсці ў школу без пачастунка немагчыма. Запрасіць да сябе- хочацца смачнейшага на стол паставіць. Але гэта не галоўнае. Людзі імкнуцца дапамагчы адзін аднаму. Тыя ж работнікі інтэрната акрамя дзяржаўных даброт, перадаюць дзецям цеплыню сваіх сэрцаў. А ўсе разам хочуць выхаваць сірот, каб тыя не разгубіліся ў жыцці і адчувалі ў ім сваю патрэбу.

*Анатоль ФЯДУЛАЎ.*

Конкурсы

## "Міс прыгажуня"— Наталля Шалкоўская

*МАЛАДЗЕЧНА. У беларускай гімназіі ўпершыню прайшоў агульнагарадскі конкурс "Прыгажуня-97", арганізаваны цэнтрам пазашкольнай работы. Школьніцы горада вызначалі лепшыя прычоскі, мадэлі адзення, танцавалі, спявалі, паказвалі сваю выходлівасць.*



Карону пераможцы і прыз глядацкіх сімпатый атрымала дзесяцікласніца СШ №12 Наташа Шалкоўская. "У намінацыі" ад сямі да дванаццаці год найлепш члены журы сустрэлі другакласніцу школы мастацтваў Насцю Жук. Вызначаны таксама "Міс Зачараванне", "Міс Грацыя", "Міс Пяшчотнасць", "Міс Фантазія".

*Наталля РАБЧАНКА.*

***З "Міс Грацыяй" Аляксандрай Марыскінай сустрэлася Вольга БОБРЫК, дзесяцікласніца СШ №8.***

**— Як ты апынулася сярод канкурсантак?**

— Прымаць удзел у конкурсе прапанаваў кіраўнік клуба "Равеснік", у які я хаджу. Параілася з маці і згадзілася.

**— Якія былі патрабаванні да ўдзельнікаў?**

— Звычайныя. Трэба было ўмець спяваць, танцаваць, раскавана трымацца на сцэне. Мы з маці шылі касцюм, выбіралі і самі рабілі прычоску, пісалі тэкст для "візіткі". І былі ўпэўненыя, што пераможам.

**— На сцэну выходзіла ўпершыню?**

— Мне часцяком даводзіцца выступаць перад аўдыторыяй. Я ж займаюся танцамі і спяваю ў школьным хоры.

## Яе высокасць пані стыпендыя

*МАЛАДЗЕЧНА. 20-е чысло кожнага месяца навучэнцы палітэхнікума чакаюць з нецярплівасцю.*

Стыпендыя напрамую залежыць ад паспяховасці, г. зн. ад вынікаў вучобы за семестр. Самая вялікая, натуральна, у выдатнікаў— 416 тысяч.

А ў каго не набіраецца ў сярэднім 3,4 балы, той наогул яе ўвесь семестр не атрымлівае. Пры 6-гадзінным прагуле без уважлівых прычын стыпендыі пазбаўляюцца на месяц.

Параўнаем бюджэты трох навучэнцаў.

Студэнт Качан— павышаная стыпендыя плюс прэмія "за паспяховасць" (калі-нікалі)— 150 тысяч. Хлопец штомесяц плаціць 10% са стыпендыі за інтэрнат, 60 тысяч на дарогу дадому. Грошы, што засталіся, ён эканомна расходуе ўвесь месяц, бо на дапамогу з сям'і мала даводзіцца разлічваць. Качан з тэхнікума выйдзе не толькі з дыпломам, але і з гастрытам.

Студэнт Бохан— стыпендыі пазбаўлены, але не вельмі засмучаны, бо як брат, так і бацька займаюцца камерцыяй і 400-500 тысяч у тыдзень "падкінуць". У выніку Бохан мае магчымасць рэгулярна вадзіць дзяўчыну ў дыскабар, плаціць 15 долараў за кватэру і не зняСільваць сябе разлікамі, якія яму выканае Качан.

Студэнтка Кісель— атрымлівае 290 тысяч, жыве на кватэры ў цёткі, таму з харчаваннем праблемаў няма. Забавы ёй забяспечыць Бохан (не тое, што Качан, якога яна так і не "раскруціла" на рэстаран). У выніку свае 290 тысяч Кісель траціць на касметыку, цыгарэты і розныя дробязі.

Вось такія магчымасці ў студэнтаў МПТ. Яны і вызначаюць іх будучыню: адзін пойдзе вучыцца далей, іншы вымушаны ўладкоўвацца на работу, а хтосьці таксама будзе вучыцца,— толькі завочна.

*Надзея ЛІСАВА, выпускніца МПТ 1997 г.*

## Адпачываем у Маладзечне

**Люда Суднікові́ч, 16 год:**

— Звычайна збіраемся з сябрамі на кватэры. Слухаем музыку (Стынга, Ціну Цёрнэр).

**Жанна Бароўская, 17 год:**

— На дыскатэках кінатэатра "Радзіма" адначасова адпачываем і зараджаемся энергіяй.

**Людміла Фядуцік, 15 год:**

— Хаджу ў мастацкі гурток, бо збіраюся стаць мадэльерам.

**Вольга Абручнікава, 15 год:**

— Складаю вершы, пішу замалеўкі. Усё наклейваю ў свой альбом. Мару напісаць і апублікаваць раман.

**Мікалай Чыжыкаў, 16 год:**

— Імкнуся часцей бываць на свежым паветры

*Запісала Вольга БОБРЫК, вучаніца 10 класа.*

Наш крыўды

## Як дзецям робяць балюча

*РАДАШКОВІЧЫ. Плошча раённага Дома дзіцячай творчасці, што знаходзіцца ў цэнтры мястэчка (цяпер там філіял) скарацілася на 2 пакоі.*

Зручна было і дзецям, і кіраўнікам гурткоў. Большасць настаўнікаў— сумяшчальнікі, з дзецьмі займаюцца пасля асноўнай сваёй работы. Працаваць за 100 тысяч стане не кожны. Для дарослых— гэта не заробкі, хутчэй, хобі, самарэалізацыя. Больш за 300 дзяцей вучацца ляпіць з гліны, авалодваюць фотамайстэрствам. Яшчэ нядаўна працавалі з дрэвам.

Сёння дрэваапрацоўчы станок стаіць у паветцы, пакой, дзе праходзілі заняткі, аддалі прыватнаму стаматолагу. На тых жа плошчах збіраліся радыёаматары, планавалі адкрыццё музея рукадзелля. У адным з вялікіх пакояў (актавай зале) працуюць літаратурна-драматычны гурток, танцавальны, ігры на гітары, рукадзелля. Цеснавата.

Стары, але справядлівы лозунг "Усё лепшае— дзецям" ўлады разумеюць па-свойму.

*Анатоль ФЯДУЛАЎ.*

Увага: каханне!



*"Раман і Вольга— аднакласнікі. Яна кахае яго, а ён— яе сяброўку. Разам ходзяць на дыскатэкі, сустракаюць святы. На тое і сябры, каб не было паміж імі сакрэтаў. Вользіна сяброўка часцяком расказвае, як Раман зазірае ёй у вочы, гаворыць ласкавыя словы, імкнецца прытуліцца, пацалаваць. Такія шчырыя аповяды немагчыма слухаць. Вольга прызналася, што хоча пайсці з жыцця. Як яе выратаваць? Дапамажыце ёй!*

*АЛЕНА."*

### Парады ад псіхолага

Вольга, зрабі так.

1. Не сумуй. Паглядзі на Рамана іншымі вачыма. Знайдзі ў яго недахопы (прышч на твары, брудныя пазногці і д. т. п.). Можа, ён наогул нецікавы, не заслугоўвае тваёй увагі?

2. Раскажы аб сітуацыі даросламу блізкаму чалавеку. Па-іншым будзеш успрымаць тое, што яшчэ гадзіну таму здавалася трагічным і безнадзейным.

3. Завядзі дзённік. Падрабязна апісвай свае і яго паводзіны, кожную дэталь ва ўзаемаадносінах. Па-першае, свае пачуцці ты выльеш на паперу— стане лягчэй. Па-другое, некаторыя дэталі стануць выратавальнай лесвіцай— пры перачытванні дзённіка інакш на іх будзеш глядзець.

4. Знайдзі сабе занятак па душы. Пасля школы наведвай спартыўную секцыю. Ці поўнасцю пераключыся на вучобу (выпускны клас— паступленне ў інстытут— новы калектыў, новыя ўражанні).

***P.S. Дасылайце нам складаныя сітуацыі, у якіх апынуліся вы, ці вашы сябры. А я дапамагу парадамі.***

*ПСІХОЛАГ*

Дошка аб'яў

➊. Вучуся ў 4 класе СШ №6 г. Маладзечна. Захапляюся плаваннем, малюю, чытаю дэтэктывы. Збіраю наклейкі "Элен і хлопцы". Люблю сабак (колі, даберманаў). Шукаю сяброў ад 10 да 12 год.

*Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а, 12, тэл. 67414, Вольга Лычкоўская.*

➋. Я даволі сімпатычная, з карымі вачыма, рост 170, 15 год. Люблю слухаць сучасную музыку (тэхна, металіка). Захапляюся кнігамі, асабліва раманамі. Хаджу на дыскатэку. Хачу знайсці цікавых сяброў, з якімі магу правесці вольную хвіліну.

*Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 147, 21, тэл. 61650, Вікторыя Бірук.*

➌. Хачу пазнаёміцца з дзяўчынай да 16 год. Крыху аб сабе: рост 179, спартыўны целасклад, з пачуццём гумару, люблю слухаць сучасную музыку.

*Генадзь. Тэл. у Маладзечне 53086.*

➍. Сімпатычны хлопец хоча пазнаёміцца з дзяўчынай да 17 год. Рост 175 см., з пачуццём гумару. Вельмі часта слухаю музыку. Званіце, не пашкадуеце.

*Валерый. Тэл. у Маладзечне 75704.*

➎. Вы захапляецеся гульнямі і камп'ютэрам увогуле? Дасылайце свае прапановы, пажаданні, пытанні, якія вас цікавяць, на адрас: *Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 113а, 5, Ігару Войтку.*

**Дасылайце аб'явы на адрас рэдакцыі з абавязковай адзнакай: «Маладзёжная "РГ"».**

**«Маладзёжная "РГ"»- спецыяльны ўкладыш да "Рэгіянальнай газеты". N1, 1997 год.**

*Над выпускам працавалі:*

✿Вольга БОБРЫК, СШ N8 Маладзечна,
✿Таццяна ЖОГЛА, школа мастацтваў Маладзечна,
✿Ірына БАНДАРЫК, школа мастацтваў Маладзечна,
✿Ігар ВОЙТКА, маладзечанская беларуская гімназія,
✿Алена ГАРУНОВА, студэнтка Белдзяржпедуніверсітэта імя М. Танка,
✿Яўгенія ЯЛІНА, СШ N3 Вілейкі,
✿Надзея ЛІСАВА, Маладзечанскі палітэхнікум.

*Да хуткай сустрэчы!*

